# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА С-ГАСПАДАРКІ



№ 12

ВЕРАСЕНЬ 1930

ВЫДАНЬНЕ НАРКАМЗЕМУ БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР



## ЗЬМЕСТ.

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА ЗЕМЛЯРОБСТВА І АГРАНАМІЗАЦЫІ НАСЕЛЬНІЦТВА

ВЫДАНЬНЕ НАРКАМЗЕМУ І БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

Выходзіць 2 разы ў месяц

№ 12 (18) | Верасень | 1930 г.





## Сьвінагадоўлю ў калгасы

Разьвіцьцё сьвінагадоўлі ў калгасах у сучасны момант набывае актуальнейшае значэньне. Буйны рост прамысловасьці і зьвязаны з гэтым рост буйных прамыслова-палітычных цэнтраў патрабуе забясьпечаньня гэтых дастатковай колькасьцю мяса-жыравых прадуктаў, а гэткія найбольш хутка і танна дае сьвіньня. Так для атрыманьня 1 кгл. валоўяга мяса трэба 18 клг. кармовых адзінак, а для атрыманьня 1 клг. сьвінога—усяго толькі 5 клг. Сьвіньня вельмі пладавітая, хутка адкармліваючаяся жывёла і дзякуючы гэтаму мы праз яе зможам вырашыць мясную праблему на працягу 1-2 год, чаго нельга зрабіць праз буйную рагатую жывёлу.

Але зразумела, што пры тым стане сьвінагадоўлі, у якім яно знаходзілася раней, калі сьвіньні былі раскіданы па 1-2 у дробных спажывецкіх, з вельмі нізкай таварнасьцю, індывідуальных гаспадарках, яна зразумела не змагла-б забясьпечыць нашых патрэб. Толькі буйная сацыялістычная савецкая калектыўная гаспадарка можа быць высока-таварнай і забясьпечыць нашыя буйныя палітычна-прамысловыя цэнтры неабходнай колькасьцю мясных прадуктаў.

Дзякуючы ўсім гэтым дадатным бакам сьвіньні, а таксама неабходнасьці ўтварэньня буйных таварных сьвінаводных гаспадарак, партыяй і ўрадам дадзен цэлы шэраг дырэктыў аб фарсіраваньні сазданьня ў калгасах буйных абагуленых сьвіных стад.

І вось у выкананьні гэтых дырэктыў вялікая адказнасьць прыпадае на Беларусь, як найбольш сьвінаводчы раён нашага Саюзу. У Беларусі ёсьць і ўсе прыродныя ўмовы для разьвіцьця сьвінагадоўлі, а па гэтаму яна павінна быць у цэлым радзе раёнаў Беларусі вядучай галінай у гаспадарцы.

Беларусь павінна ня толькі цалкам забясьпечыць сябе сьвінінай, але і павінна даць значную колькасьць сьвіных прадуктаў (бэкону і інш.) для экспорту, які і раней быў даволі значным і, зразумела, што зараз павінен яшчэ павялічыцца.

Дзякуючы гэтаму мы маем таксама цэлы шэраг дырэктыў партыі і ўраду Беларусі аб фарсіраваным разьвіцьці сьвінагадоўлі ў калгасах. Апошняя пастанова Саўнаркому Беларусі, ад 21 чэрвеня 1930 г.,

прадугледжвае пастаноўку ў спэцыялізаваных сьвінаводных калгасах, да 1-га кастрычніка 1930 году 48 тысяч сьвіна-матак і 100 тысяч матак трэба паставіць да 1-га студзеня 1931 г. (у выкананьне пастановы СНК ад 18 сакавіка 1930 г.).

Але тыя дадзеныя, якія мы маем аб выкананьні гэтай пастановы, кажуць аб тым, што для яе выкананьня зроблена і робіцца вельмі мала. Так зараз мы маем у гэтых 569 спэцыялізаваных у напрамку сьвінагадоўлі калгасах 20.000 сьвіна-матак, што складае адпаведна 42 проц. і 20 проц. заданьня. Пабудована толькі 26 сьвінарнікаў на 2.600 матак, што складае толькі 5 проц. патрэбнай колькасьці. Праўда,



Сьвіное стада ў камуне „Зьвязда".

значная частка іх яшчэ будуецца, але тыя тэмпы, якімі яно вядзецца, не даюць ніякай упэўненасьці ў тым, што яно будзе своечасова скончана.

Па шляху выкананьня гэткага вялізарнейшага мерапрыемства, якое набывае вялікае гаспадарча-палітычнае значэньне, маецца цэлы шэраг перашкод, але гэтыя перашкоды магчыма зьнішчыць. Трэба толькі па ўдарнаму, па бальшавіцкі ўзяцца за справу і заданьне будзе выканана.

Самая галоўная перашкода, якую трэба перамагчы і, перамогшы якую, значна лягчэй будзе зьнішчыць і ўсе іншыя, гэта тыя „ня людзкія" адносіны да сьвіньні, якія наглядаліся раней і якія яшчэ зараз сустракаюцца вельмі і вельмі часта. Шмат хто яшчэ і зараз лічаць, што сьвінаводзтва гэта справа для людзей „дэфэктыўных", ні на што не здатных і даручаюць вядзеньне яе людзям, якіх нідзе нельга скарыстаць, займацца-ж самім гэтай справай лічаць зьневажаючым і ганебным. Трэба ў канцы канцоў уявіць сабе, што вядзеньне сьвінаводзтва гэта адказьнейшая і вельмі складаная задача і на гэты фронт павінны быць кінуты лепшыя сілы. Справа з кадрамі сьвінаводаў у сучасны момант абстаіць вельмі дрэнна. Трэба вылучыць на гэту працу лепшых калгасьнікаў, якія цікавяцца гэтай справай; яны ёсьць, трэба іх толькі ўмець знайсьці.

Вялікім тормазам у гэтай справе зьяўляецца таксама нездаволенасьць нашай простай беспароднай сьвіньнёй: „даёш іоркшыраў“ і баста... Наша сьвіньня такіх пагардлівых адносін да сябе зусім не заслугоўвае. Так, досьледы нашай сьвінаводнай дасьледчай станцыі кажуць аб тым, што яна не заўсёды ўступае іоркшыру, а часам дае і значна лепшыя гаспадарчыя вынікі. Нашы простыя маткі зьяўляюцца значна лепшымі „малошніцамі“ чым „белыя ангельскія“ і значна лепш выгадоўваюць парасят. Вельмі паказальна таксама і тое, што бэкон прыгатаваны з нашых простых падсьвінкаў нельга было адрозьніць ні на смак, ні на выгляд ад прыгатаванага з чыстапародных іоркшыраў і іх мэтысаў з простымі. Трэба аддаць простай сьвіньні належную ўвагу; а што ёй не аддаецца дастаткова ўвагі—найлепшым паказчыкам зьяўляецца 1-я Ўсебеларуская Выстаўка, на якой простая сьвіньня амаль зусім не прадстаўлена.

Трэба таксама адзначыць вельмі марудны і нездавальняючы ход будаўніцтва сьвінарнікаў. Тут маецца цэлы шэраг аб‘ектыўных і суб‘ектыўных прычын, але адны і другія могуць быць зьнішчаны. Недахоп будаўнічых матар‘ялаў, на што часьцей усяго спасылаюцца, зьяўляецца затрымкай у будаўніцтве толькі таму, што яшчэ шмат таварышоў думаюць будаваць і будуюць для сьвіньні „палацы“, а гэта вельмі і вельмі шкодная тэндэнцыя. На яе шкоднасьць зьвяртаў увагу тав. Молатаў на XVI зьезьдзе партыі і цэлы шэраг партыйных пастаноў, якія прапануюць разглядаць занадта „шыкарнае“ будаўніцтва сьвінарнікаў, як шкодніцтва. Трэба галоўным чынам разгортваць будаўніцтва, скарыстоўваючы мясцовыя будаўнічыя матар‘ялы. Старыя будынкі, салома, гліна, камень, пясок—вось галоўныя матар‘ялы, з якіх павінны будавацца сьвінарнікі. Замена дарагога лесу матар‘ялам старых будынкаў, жалеза, чарапіцы, цьвікоў на страху саломай, цэглай, каменьнем і дзеравам, значна патаніць будаўніцтва і адначасова дазволіць абыйсьціся без такіх матар‘ялаў, як жалеза, цьвікі, цэгла, у якіх у сучасны момант адчуваецца вялікі недахоп. Да таго-ж такое спрошчанае будаўніцтва значна палегчыць той крызыс, які маецца з кіруючым тэхнічным пэрсаналам, без якога пры такой простай пабудове абыйсьціся значна лягчэй. Недахоп рабочай сілы гэта не заўсёды сапраўдны недахоп людзей, а часьцей вынік дрэннай арганізацыі працы, не мэтазгоднага іх скарыстаньня і г. д. Правільная арганізацыя працы, увядзеньне зьдзельшчыны, узьняцьце вытворчасьці працы—вось шляхі да зьнішчэньня гэтага недахопу.

**„Усямерна праводзячы працу па пашырэньню жывёлы ў паасобных бядняцка-серадняцкіх сялянскіх гаспадарках, стымулюючы разьвіцьцё ў іх гэтае справы, асноўную ўвагу трэба сконцэнтраваць на пашырэньні стада жывёлы ў саўгасах і калгасах, асабліва ў спэцыялізаваных сьвінаводных і малочных гаспадарках“.**

**(З рэзалюцыі XIII зьезду КП(б)Б).**

Дрэннае ўтрыманьне сьвіней, думка што сьвіньня гэта брудная жывёла і без балота жыць ня можа, таксама зьяўляецца вялікімі тормазамі ў разьвіцьці сьвінагадоўлі. Чума сьвіней, рожа, сэптыцэмія—вось тыя бічы сьвінагадоўлі, якія прыносяць вельмі часта вялікія страты. Але гэтыя бічы зьяўляюцца толькі да таго часу, пакуль сьвіньня ўтрымоўваецца ў балоце, у дрэнных санітарных умовах. Палепшаньне ўтрыманьня зьнішчая гэтыя хваробы. Вельмі добрыя прыклады гэтага таксама дае сьвінаводная дасьледчая станцыя: утрыманьнем сьвіней пры належных умовах яна дабілася таго, што ўжо на працягу 3-х год ня ведае ніякіх хвароб, а зразумела, што ня трэба з гэтага рабіць вынік, што трэба будаваць „палацы". Тыя спрошчаныя сьвінарнікі, аб якіх казалася вышэй, могуць забясьпечыць цалкам умовы ўтрыманьня, адпавядаючыя поўнасьцю ўсім запатрабаваньням зоовэтмінімуму. Трэба таксама паставіць належным чынам і кармленьне сьвіней. Корм, скормлены сьвіньням сваечасова і ў належным выглядзе дасьць значна большы эфэкт, чым пры тым бяссыстэмным кармленьні, якое ў нас праводзіцца.

Зразумела, што галоўным недахопам працы па організацыі сьвінагадоўчых калгасаў зьяўляецца слабое ўкамплектаваньне іх сьвіна-маткамі. Ні кадры, ні будынкі не патрэбны, калі ня будзе сьвіней, а з імі справа абстаіць вельмі дрэнна. Як ужо ўказвалася раней, замест 48 тыс. сьвіна-матак, якія павінны быць пастаўлены да 1 кастрычніка, зараз мы маем ледзь 20 тыс. Нехапаючыя 28 тысяч матак павінны быць знойдзены, а знайсьці іх можна, для гэтага маецца цэлы шэраг крыніц.

Так, неспэцыялізаваныя ў напрамку сьвінадоўлі калгасы, якія маюць абагуленае стада сьвіней, могуць і павінны дапамагчы спэц. калгасам укамплектаваць сваё сьвіное стада, шляхам перадачы ім (зразумела, за грошы) 5—10 матак са свайго абагуленага стада. Трэба толькі належным чынам паставіць растлумачальную працу і справа будзе забясьпечана. Вялікую ролю тут можа адыграць абмен паміж калгасамі: сьвінаводны калгас можа аддаць калгасу, спэцыялізаванаму ў малочным напрамку, карову, а атрымаць ад яго сьвіна-матак, можа абмяняць маючыхся ад яго авечак на сьвіна-матак і інш. Зразумела, што тут можа быць цэлы шэраг варыянтаў. Неабходна ўцягнуць у справу камплектаваньня сьвінаводных калгасаў жывёлаводныя таварыствы, якія таксама могуць ім значна дапамагчы ў гэтай справе; абмен і тут можа адыграць вялікую ролю.

Калгасьнікі, якія маюць неабагуленых сьвіна-матак, таксама павінны дапамагчы калгасу ўкамплектаваць абагуленае стада, шляхам: продажу калгасам парасят-сьвінак асеньняга апаросу; продажу колгасу маючыхся ў іх сьвіна-матак. Трэба гэта толькі паашчраць усімі магчымымі мерамі і зусім магчыма правесьці,—можна, напр., дагаварыцца з калгасьнікам, што ён атрымае 1-2 парасят, ад першага апаросу праданай калгасу маткі для вырашчваньня для ўласнага спажываньня. Зразумела, што гэткіх спосабаў паашчрэньня продажы колгасу матак можна знайсьці цэлы шэраг. Яскрава, што і тут трэба правесьці шырокую растлумачальную працу. Ёсьць і цэлы шэраг іншых спосабаў набыцьця сьвіна-матак для ўкамплектаваньня гэтых колгасаў, трэба толькі праявіць у гэтай працы належную рухавасьць і тэмпы. Зразумела, што навакол гэтых мерапрыемстваў, трэба мабілізаваць увагу калгасьнікаў. Неабходна абмеркаваць пытаньне на сходах калгасьнікаў, калгасных

партячэйках, батрацка-бядняцкіх групах, сходах беднаты, жанчын-калгасьніц і г. д.,—плян па сьвінаводзтву павінен быць даведзен да кожнага калгасьніка. Мэтады ўдарніцтва, сацспаборніцтва, грамадзкага буксіру, сустрэчнага пляну па сьвінагадоўлі, павінны знайсьці шырокае прымяненьне ў гэтай справе.

І апошняе—трэба каб сьвінаводныя гаспадаркі мелі сталае і надзейнае кіраўніцтва, бо прадастаўленыя самі сабе, зразумела, яны ня справяцца з гэтай вялізарнейшай задачай. Неабходна таксама, каб яны мелі дастатковае зоотэхнічнае і вэтэрынарнае абслугоўваньне. Галоўная праца тут падае на ўсе раённыя ўстановы і ў першую чаргу Райкалгассаюзы і Райкалгассэкцыі райкаапсаюзаў.

Сьвінаводныя саўгасы таксама павінны ўзяць шэфства над шэрагам сьвінаводных калгасаў і дапамагчы ім як у сэнсе іх зоотэхнічнага і вэтэрынарнага абслугоўваньня, так і ў сэнсе арганізацыі сьвінаводнай гаспадаркі.

**М. С-кі.**



Бэтаніраваньне дарогі ў рабочых раёнах Барысава.

# ШЫРЭЙ ФРОНТ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

**„Да канца пяцігодкі калектывізацыя СССР у асноўным павінна быць скончана“.**
**(Сталін).**

## На балоце

*(Чырвонаармейская камуна, Ветрынскі раён)*

Акаляючыя сяляне ніколі не асьмеліваліся заходзіць у глыбіню Наўліцкіх балот, якія зарослы былі дзікімі кустамі. Але прышлі новыя людзі з лапатамі, прышлі з сякерамі. Пачалася асушка балота.

Дружная праца мэліаратараў прыцягвала да сябе ўвагу сялян. Яны прыходзілі з акаляючых вёсак і хутароў.

Зьдзіўляліся:

— Што яны выдумалі... Хіба можна такую гаць асушыць?

А па вёсках і хутарох кулакі пускалі розныя чуткі.

— Балоты думаюць абнасіць вялікай сьцяной. Сюды будуць зганяць нас, мужыкоў... на пакуту. Самі для сябе капаеце ямы, канавы...

### Зьмяніўся твар зямлі

У 1927 году на Наўліцкіх балотах пачаўся зьмяняцца твар зямлі. Асушаныя дзесяткі гектараў—далі мажлівасьць зрабіць пробны пасеў. Добры ўраджай быў! Авёс вырас роўны з чалавекам — моцны ўдар кулаку.

Вакол балот арганізавалася восемнаццаць мэліарацыйных таварыстваў, куды ўвашлі сотні беднякоў і серараднякоў з ваколічных вёсак і хутароў. На зьмену простаму каню, на балотах зьявіліся сталёвыя кані—трактары. Панясьліся сталёвыя зыкі над балотнымі абшарамі, вёскамі і хутарамі. Гэтыя гукі будзілі сялян, заклікалі на барацьбу за новае жыцьцё.

### Прыехалі чырвоныя байцы

27 ліпеня мінулага году, на Наўліцкіх балотах арганізавалася Чырвонаармейская камуна. Сюды прыехала 16 дэмабілізаваных чырвонаармейцаў. Іх бацькаўшчына—на Смаленшчыне, у далёкай Сібіры, у Кубанскіх станіцах, на Украіне... Але байцы пасьля службы ў Чырвонай арміі—не паехалі дадому. Яны паставілі перад сабой мэту паказаць сялянам, што і на балоце можна пабудаваць новае жыцьцё.

— Чаго яны прыехалі сюды? Што яны будуць рабіць на балотах?— пыталіся сяляне.

Чырвонаармейцы адказалі:

— Будзем будаваць новае жыцьцё. Камуну арганізуем.

— Хадзеце от да нас у камуну.

— Мабыць і добрая рэч гэтая камунія,—адказвалі старыкі,—але-ж неяк... Мы пачакаем крыху.

Шаснаццаць дэмабілізаваных чырвонаармейцаў, з іх шэсьць камуністаў і два камсамольцы, шчыра ўзяліся за работу. Пабудавалі дзесяць дамоў, купілі 108 кароў, коняй. Затым зрабілі запашку на зяб і пасеялі 28 *га* жыта. Атрымалі доўгатэрміновыя крэдыты, абзавяліся маемасьцю і інш. патрэбнымі рэчамі ў гаспадарцы.

### А праз адзін год...

27 ліпеня гэтага году камуне споўнілася адзін год. Мінулы шлях камуны—упартая барацьба за новае жыцьцё. За гэты час камуна перажыла ня мала цяжкасьцяй. Разам з гэтым атрымала і вялікія дасягненьні.

На агульным сходзе камунараў, у выступленьнях і дакладах лічбы перамогі гаварылі самі за сябе.



Падрыхтоўка к сяўбе. Ачыстка насеньня.

Камуна зараз мае звыш 3.000 *га* зямлі. Аб'яднае 89 гаспадарак, 389 едакоў, з якіх 16 батракоў, 89 беднякоў, 159 серднякоў. Сюды, апрача чырвонаармейцаў, уліліся цэлыя вёскі (Богушава, Антонавічы, Востраў, Крукі і Балотніца) з прылягаючымі хутарамі.

Маецца 72 кані, 11 жарабят, 185 кароў, 43 маладняка, 7 заводзкіх быкоў, 200 цялят, 141 сьвіньня, 215 авец. Набыты тры трактары, плугі, бароны, сеялкі, зернаачысьціцелі, жнейкі, касілкі і інш.

Адбудована 11 дамоў для жыльля, абсталявана 2 сталоўкі на 300 чалавек, адчынена 2 дзіцячых ясьляў, пабудаваны клюб. Будзе хутка пабудаваны хлеў на 140 галоў буйнай жывёлы, сьвінарнік на 100 галоў,

птушнік на 2000 птушак, два жылых дамы на 16 сямей, памяшканьне пад млын, сілосная вежа.

Працуе такарня, сталярня, кравецкая майстэрня, масларобны завод. Намечана ў недалёкім будучым пабудаваць цагельны завод і завод па выпрацоўцы вапны.

### Бальшавіцкія тэмпы

— Мы працуем па ўдарнаму, баявымі тэмпамі,—заявілі на агульным сходзе камунары.

Камунары сапраўды такі працуюць бальшавіцкімі тэмпамі. Узяць хоць-бы веснавую сяўбу, уборку, падрыхтоўку вясеньняй сяўбы. Мабілізаваны ўсе сілы. З партыйцаў, камсамольцаў і актыву камуны створаны ўдарныя брыгады. За актывам пацягнуліся і астатнія камунары.

Правільная арганізацыя працы (брыгады, брыгадзіры, загадчыкі аддзяленьнямі, вучот і інш.) і разгорнутае сацыялістычнае спаборніцтва—зьявіліся лепшымі шляхамі, якія прывялі камуну да перамогі ў вясеньнюю і ўборачную кампанію. Так будзе і ў асеньнюю сяўбу.

Пасеяныя 120 *га* аўса, 31 *га* ячменю, 59 *га* бульбы, 115 *га* вікі, 10 *га* кораньплодаў, 60 *га* ільну, 47 *га* канюшыны—прынясьлі нябачны і нячуваны ўраджай. Ураджай жыта, напрыклад, дасьць каля 11.000 пудоў зярна.

Увосень будзе пасеяна 105 *га* жыта і 10 *га* пшаніцы. Нарыхтоўваецца ўжо насеньне, узарата зямля, вывезена ўгнаеньне, падрыхтована рабочая сіла.

Сыкаюць гадзінамі кулакі на камуну, стараюцца падарваць яе посьпехі, а яна з кожным днём узмацняецца. Камунары пад умелым кіраўніцтвам партыйнай ячэйкі дружна даюць адпор кулацкай хлусьні, шчыра працуюць на калектыўных палетках.

**С. Міхальцоў.**

---



Калгас „Чырвоны гароднік" (каля Менску). Засолка гуркоў на беразе ракі.

# У барацьбе з клясавым ворагам—расьцем

*(Калгас „Чырвоная Зорка“, Чэрыкаўскі раён)*

Калгас „Чырвоная Зорка“ мае пахаці 175 *га* і сенажаці 20 *га*. Машын: 3 малатарні з іх 2 з конным прыводам і 1 ручная, 3 веялкі, саламарэзка, сеялка, жняярка, ільномялка, плугоў жалезных 24, барон 26. У жніўні месяцы сход калгасьнікаў пастанавіў купіць бульбакапалку, сартыроўку, 2 двухлямешных плугі, 15 барон і трактар на будучы год.

Коняй маецца 26. Маладняку 3, абагулены ўсе, кароў 33, маладняку 6—абагульваюцца 17 штук. Адчуваецца недахоп у гумнах і сьвірнах для ссыпкі збожжа.

### Гаспадарчая праца калгасу

Вучот працы калгасу пастаўлен добра. Акуратна вядуцца кнігі: збожжа-прадуктовая, прыходна-расходная, інвэнтарная, арэндная, кніга вучоту працы калгасьнікаў. Маецца рабочы плян і рабочая праграма сяўбы, плян уборачнай кампаніі і каляндарны расклад работы.



Падпіска на пазыку „5-годка ў 4 гады“.

У гэтым годзе засеяна: ячменю 12 *га*, грэчкі 18 *га*, аўса 18 *га*, пшаніцы 3 *га*, бульбы 26 *га*, канюшыны па ячменю 12 *га*, вікі 3 *га*, лёну 5 *га*, канапель 1 *га*, турнэпсу 0,2 *га*, капусты 0,2 *га*. Ураджай добры, асабліва авёс „Пабеда“ і „Залаты дождж“, засеяны ў гэтым годзе, якога раней ня сеялі. Пасеву канюшыны мінулага году маецца 10 *га*, з якога сабрана 1050 п. сухога корму.

Зарганізаваны 3 брыгады, але брыгадзіры яшчэ ня досыць уцямілі свае абавязкі, таму работа брыгад не на 100 проц. добрая. Работа калгасьнікаў разьбіта на 5 разрадаў: першы разрад 80 кап., другі—1 р., трэці—1 р. 20 к., чацьверты—1 р. 40 кап., пяты—1 р. 60 кап. К чацьвертаму і пятаму разрадам адносяцца жнеі і касцы. У час сваёй

працы ім робіцца надбаўка: першым 20 проц., другім 100 проц. к разраду.

Закантрактавана жывёлы: 12 сьвіней-парасят, 2 бычкі і 1 карова. Пасеву: бульбы 6 *га*, аўса 6 *га*, жыта 5 *га*, пшаніцы 1 *га*, лёну 1 *га*, канапель 0,25 *га*. Такім чынам нават у гэтым годзе калгас „Чырвоная Зорка", акрамя забясьпечаньня сваіх патрэб, дасьць дзяржаве на вялікую суму прадуктаў.

Па пляну намечана ў калгасе зрабіць сіласную яму на 40 тон сіласу. Адзін калгасьнік быў на сіласных курсах.

Азімы клін узараны плошчай 50 *га*. Намячаецца пасеў радавой сеялкай у 30 *га*, завапнаваць 3 *га* і зрабіць пасеў жыта адборным і чыстым зярном. Калгасьнікі ўборку скончылі з посьпехам.

## Палітасьветная праца ў калгасе

У калгасе палітасьветная праца амаль зусім не праводзіцца, за выключэньнем чыткі газэт і часопісаў: „Беднаты" „Беларуская Вёска", „Камунар Магілеўшчыны", „Шляхі Калектывізацыі".

Калгас лічыцца ў Глінскім сельсавеце на адлегласьці менш кілёмэтра, маецца Камаровіцкая хата-чытальня Рэчыцкага с.-с. Трэба, каб гэта хата-чытальня прыняла ўсе крокі к таму, каб цалкам абслугоўваць палітасьветнай працай калгасьнікаў і калгасную моладзь, якой маецца да 18 гадоў—25 асоб і дзяцей да 12 гадоў—42 асобы.

Трэба восеньню зарганізаваць у калгасе чырвоны куток, абсталяваць яго плякатамі і лёзунгамі, выпускаць пры дапамозе хаты-чытальні насьценгазэту, сыстэматычна абслугоўваць бібліятэчкай-перасоўкай, арганізаваць пры чырвоным кутку, выходзячы з умоў калгасу, неабходныя гутаркі, практыкаваць у калгасе вечары пытаньняў і адказаў, зарганізаваць шахматна-шашачны гурток, жывой масавай працай абслугоўваць калгасную моладзь праз клюб, хаты-чытальні і вясной адчыніць дзіцячыя ясьлі.

Для гэтай мэты калгасу патрэбна пры разьмеркаваньні ўраджаю большы процант адлічыць на культ-патрэбы калгасу.

## Класавая барацьба па-за калгасам

Акрамя таго, што распаўсюджваюцца антысавецкімі элемэнтамі розныя чуткі аб калгасным жыцьці і што кожны маленькі недахоп раздуваецца ў нячувалыя прарывы, быў ня так даўно выпадак, калі з маючыхся ў калгасе калод пчол, з пасекі выцягнулі 2 калоды пчол і патапілі ў рэчцы.

Гэтыя факты гавораць за тое, што клясавы вораг ня сьпіць, праводзіць сваю работу, кулакі стараюцца пашкодзіць калгасу. Але, ня гледзячы на ўсякія перашкоды, калгас „Чырвоная Зорка" відавочна ўзмацняецца. З кожным днём калгас заваёўвае аўтарытэт сярод акаляючых бядняцка-серадняцкіх мас вёскі.

**Юрка Снытка.**

---

**Пашырым падпіску на часопіс „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ" сярод калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі.**

# Малочная гаспадарка Аршаншчыны патрабуе ўвагі.

Дзякуючы напружанаму становішчу з задавальненьнем гарадоў і рабочых цэнтраў прадуктамі харчаваньня, асабліва жырамі, пытаньне разьвіцьця прамысловае малочнае гаспадаркі ў сучасны момант набывае найважнейшае значэньне. Адпаведна гэтаму павінна быць зьвернута належная ўвага ўсіх савецкіх, а таксама і грамадзкіх арганізацый, і мабілізавана ўвага шырокай грамадзкасьці рабочых, батракоў, калгасьнікаў, бядняцка-серадняцкіх мас вёскі навокал задач па арганізацыі сацыялістычных мяса-малочных гаспадарак.

У Аршанскай акрузе маюцца ўсе падставы і база для арганізацыі прамысловай малочнай гаспадаркі (шырокая сетка калгасаў, жывёлагадоўчы ўхіл акругі і г. д. і г. д). Але калгасна-каапэрацыйная сыстэма, зямельныя органы, райвыканкомы і сельсаветы і да апошняга часу гэтаму пытаньню не ўдзяляюць досыць сур'ёзнае і сталае ўвагі. Вылучаныя для спэцыялізацыі ў малочным напрамку 24 калектыўныя гаспадаркі з лікам 1.640 кароў, яшчэ арганізацыйна і гаспадарча не замацаваліся, недастаткова забясьпечаны крэдытамі на будаўніцтва і набыцьцё жывёлы, не наладжаны правільны ўход за жывёламі, ня выкарыстаны шырокія мажлівасьці ў справе прыцягненьня вольных сродкаў насельніцтва.

Далей у значнай частцы калгасаў, вылучаных для спэцыялізацыі, дзякуючы спазьненьню па вызначэньню асноўнай галіны іх гаспадаркі, веснавая сяўба ня была ўвязана з асноўным напрамкам гаспадаркі, што стварыла пагрозу з забясьпечэньнем кармамі жывёлы гэтых калгасаў.

Трэба сказаць, што з боку малочна-жывёлагадоўчай каапэрацыі, райвыканкомаў і сельсаветаў поўнасьцю адсутнічае работа ў галіне вытворчага каапэраваньня батрацтва, беднаты і серадняцтва (каапэравана 6,6 проц. сялянскіх двароў), а таксама па арганізацыйнаму і гаспадарчаму іх абслугоўваньню. Тут работа павінна быць узмоцнена шляхам арганізацыі пасялковых таварыстваў, мабілізацыі сродкаў насельніцтва, забясьпечыўшы цьвёрдае кіраўніцтва у існуючых пасялковых вытворчых таварыствах (такіх таварыстваў у акрузе маецца 32), прыцягваючы ў кіруючыя органы таварыстваў беднату і серадняцтва, скарыстоўвачы гаспадарчы вопыт апошніх. Усямерна садзейнічаць гаспадарчаму разьвіцьцю таварыстваў у тым, каб у мінімальна-кароткі тэрмін арганізаваныя таварыствы перавесьці ў с.-гаспадарчыя арцелі.

Як райвыканкомы, таксама сельскія саветы арганізацыю пасялковых вытворчых таварыстваў павінны весьці ў такім напрамку, каб у кожным арганізаваным таварыстве ў першую чаргу была забясьпечана пабудова грамадзкіх сілосных установак, скотных двароў, наладжаны правільны ўход за жывёлаю і гадоўляю маладняку.

У сувязі з слабаю сыстэмаю работы малочна-жывёлагадоўчай каапэрацыі па збору малака, як ў аднаасобным, а таксама і ў сацыялістычным сэктарах, дзякуючы зусім няўважлівым адносінам з боку райвыканкомаў і сельсаветаў да выкананьня вызначаных мерапрыемстваў па разьвіцьцю малочнай гаспадаркі—масла-сыр. заводы зусім слаба нагружаны сырцом (сярэдняя нагрузка 40 проц.), што бязумоўна пагражае выкананьню пляну масла-сыразагатовак.

Дрэнна яшчэ і тое, што з боку некаторых раённых устаноў і арганізацый наглядаюцца тэндэнцыі месьніцкага характару, якія выража-

юцца ў затрыманьні і скарыстаньні на мясцовыя патрэбы малочных прадуктаў (масла, сыр і малако). Гэтыя хваравітыя зьявішчы неабходна як мага хутчэй зьнішчыць, бо яны шкодна адбіваюцца на выкананьні пляну масла-сыразагатовак.

Так-жа сама абстаіць справа і з кантрактацыяй племяннога маладняку (плян гадавы выканан на 44 проц.). Тут павінна быць, як з боку малочна-жывёлагадоўчай каапэрацыі, а таксама і райвыканкомаў, работа пашырана. На самацёк разьлічваць нельга.

**С. Лодысеў.**



**На здымках:**

**УВЕРСЕ—пабудова сілоснай вежы ў калгасе „Новае Лядца“.**

**УНІЗЕ—загатоўка сілоснай масы.**



# Увага прадзільным культурам

Сяўба прадзільных культур—лёну і канапель—у гэтым годзе праходзіла вельмі напружана. Толькі дзякуючы максымальнай напружанасьці савецкіх і партыйных арганізацый, якія своечасова сканцэнтравалі ўвагу на засеве прадзільных культур і шэрагу ўрадавых пастаноў аб ільготах для пасеўшчыкаў лёну і канапель (як калгасам, так і аднаасабовым бядняцка-серадняцкім гаспадаркам), удалося ня толькі захаваць пасеўную плошчу мінулага году, але і некалькі пашырыць яе.

Якія-ж прычыны перашкаджалі пасеву лёну і канапель у веснавую пасеўную кампанію 1930 году?

З палявых культур, лён і канапля зьяўляюцца найбольш працаёмістымі. Для апрацоўкі 1 гектару лёну затрачваецца 108 рабочых дзён, у той час, як азімае жыта—36, яравыя (ячмень)—40, бульба—80, а насенныя травы (канюшына) толькі 18 рабочых дзён.

Такім чынам лён патрабуе затрат рабочае сілы ў тры разы больш, чым культуры збожжавыя. Таму, у вясеньнюю пасеўную кампанію некаторыя калгасы адмаўляліся ад засеву вялікіх плошчаў ільном і канаплямі. У калгасах назіраўся недахоп рабочае сілы.

Недастатковая забясьпечанасьць рабочай сілай зьяўляецца адным з тармазоў у разьвіцьці працаёмістых прадзільных культур. Гэтай перашкоды магчыма пазбавіцца шляхам мэханізацыі і індустрыялізацыі працэсаў культуры і першапачатковай апрацоўкі лёну і канапель. У першаю чаргу неабходна мэханізаваць найбольш працаёмістыя працэсы (церабленьне лёну, абчосваньне ільняных галовак, мяцьце, трапаньне) шляхам снабжэньня ільнаводных гаспадарак ільнацерабілкамі, машынамі для абчосваньня і раздаўліваньня ільняных галовак і пабудовай заводаў па першапачатковай апрацоўцы лёну і канапель.

Да гэтага часу ільнаводзтва і канапляводзтва заставаліся ў нас самымі немэханізаванымі галінамі сельскае гаспадаркі. Зараз у зьвязку з арганізацыяй буйных ільнаводных гаспадарак, перад намі паўстала пытаньне аб хутчэйшай мэханізацыі ільнаводзтва. У бягучым годзе ўпяршыню завозіцца ў БССР 10 замежных ільнацерабілак, але яны змогуць абслужыць яшчэ зусім нязначную частку нашага ільнаводзтва.

З наступнага году мы ўжо можам спадзявацца на завоз значнай колькасьці спэцыяльных машын для ільнаводзтва. Саюзсельмашам у праграму вытворчасьці ўключаюцца спэцыяльныя ільняныя трактарныя сяўяркі, ільнацерабілкі, машыны для абчосваньня галовак і інш. У 1930-31 годзе будзе выпушчана 5000 ільнацеребілак, 5000 машын для абчосваньня галовак, 1000 машын для раздаўліваньня галовак, 3000 трыераў і 4500 ільнатрашчотак. Беларускае ільнаводзтва складае, прыблізна, $^{1}/_{10}$ частку саюзнага даўгунцовага ільнаводзтва, а таму мы маем падставу разьлічваць на атрыманьне $^{1}/_{10}$ часткі ўсіх машын. Пры гэтай умове будзе адхілены адзін з тормазаў, які перашкаджае разьвіцьцю ільнаводзтва.

Другой прычынай недастатковага тэмпу разьвіцьця прадзільных культур зьяўляецца амаль поўная адсутнасьць агранамічнага абслугоўваньня ільнаводных гаспадарак.

У сучасны момант штаты аграномаў-ільнаводаў як па лініі земворганаў, так і па лініі каапэрацыі запоўнены толькі на 25—30 проц.

Пасутнасьці ў нас аграномаў-ільнаводаў зусім няма, таму што ільнаводы у БССР (каля 30 чал.) менш усяго займаюцца ільнаводзтвам; у большасьці выпадкаў яны зьяўляюцца аграномамі-унівэрсаламі. Нават у цэнтральных арганізацыях (Белпаляводсаюз, Белкалгасцэнтр) аграномы-ільнаводы большую частку свайго працоўнага часу ўдзяляюць іншым культурам і агульным арганізацыйным пытаньням. У раёнах-жа яны зусім страцілі сваю спэцыяльнасьць.

Аднэй з неабходных умоў разьвіцьця тэхнічных культур зьяўляецца дастатковае аграбслугованьне іх. Таму неабходна ўсіх аграномаў-ільнаводаў аслабаніць ад усіх іншых прац не па спэцыяльнасьці, даўшы ім магчымасьць абслугоўваць выключна прадзільныя культуры.

Кантрактацыя ўраджаю 1929 году была цалкам забясьпечана хлебам, і прамтаварамі, што адбілася на правядзеньні вясновай сяўбы і кантрактацыі пасеваў у 1930 годзе. Перабудоўваючы сельскую гаспа-



Малацьба ў калгасе „Новае Лядца“.

дарку ў таварным напрамку, мы павінны ня толькі патрабаваць ад калектыўных гаспадарак таварную прадукцыю, але і забясьпечыць іх таварамі.

Для таго, каб забясьпечыць пасьпяховы пасеў і кантрактацыю прадзільных культур вясною 1931 году, НКГандлю павінен поўнасьцю выканаць узятыя на сябе абавязкі пры кантрактацыі ў 1930 годзе па забясьпечаньні пасеўшчыкаў-кантрактантаў хлебам і прамтаварамі. Нормы забясьпечаньня ў будучым павінны быць устанаўліваемы своечасова. Недапушчальна такое становішча, калі загад аб забясьпечаньні пасеўшчыкаў-кантрактантаў мануфактурай выдаецца ў самы разгар сяўбы, а да пасеўшчкаў даходзіць у канцы сяўбы. Так было вясною 1930 году. У 1931 годзе НКГандлю павінен устанавіць цьвёрдыя нормы забясьпечаньня да пачатку кантрактацыі.

Разьвіцьцё таварнасьці сельскае гаспадаркі цесна зьвязана з яго спэцыялізацыяй. У мэтах пасьпяховага разьвіцьця прадзільных культур неабходна спэцыялізаваць савецкія і калектыўныя гаспадаркі па ільнаводзтву і канапляводзтву. Першыя крокі ў гэтым напрамку ўжо зроблены. Па лініі дзяржаўнага сэктару арганізаванага Белар. Дзяржаўн. Аб'яднаньня Ільна-Пяньковай Прамысловасьці, якое арганізоўвае ільнаканапляводныя саўгасы, Пастановаю Савета Народных Камісараў БССР аб'яднаньню перададзены ад Белсельтрэсту саўгасы: імя 10-цігодзьдзя БССР (8.126 *га*) Бабруйскай акругі, Адаменкі (691 *га*) Віцебскай акругі і Арловічы (569 *га*) Аршанскай акругі.

Апрача таго, аб'яднаньнем арганізаваны ільна-саўгас Боркавічы, у Полацкай акрузе, на плошчы 6500 *га*.

На працягу лета і восені 1930 г. Ільна-Пяньковаму Аб'яднаньню дадзена заданьне асвоіць і падрыхтаваць да севу ў 1931 годзе наступныя плошчы:

| | |
|---|---|
| Загальле Бабруйскай акругі . . . . . . | 2000 *га* |
| Саўгас імя 10-годзьдзя БССР Бабруйск. акр. | 5200 „ |
| Боркавічы Полацкай акругі. . . . . . . | 2000 „ |
| Адаменкі Віцебскай акругі . . . . . . . | 700 „ |
| Арловічы Полацкай акругі . . . . . . . | 600 „ |
| Разам . . . | 10500 *га* |

Па лініі сацыялістычнага сэктару таксама преступлена да працы па спэцыялізацыі калгасаў у ільнаводным і канаплянаводным напрамку. У 1929-30 годзе вылучана для спэцыялізацыі па ільнаводзтву:

| | |
|---|---|
| У Полацкай акрузе . . | 65 калгасаў |
| „ Віцебскай „ . . | 68 „ |
| „ Аршанскай „ . . | 58 „ |
| Разам . . | 191 калгас. |

У далейшым усе калгасы ільнаводных раёнаў як ужо арганізаваныя, так і ўноў арганізуемыя, неабходна спэцыялізаваць у ільнаводным напрамку.

Згодна пастановы Калегіі Наркамзему БССР ад 30 мая, павінны быць спэцыялізаваны па канаплянаводзтву наступныя калгасы: у Бабруйскай акрузе Чырвонаармейская камуна імя БВО на Мар'інскім масыве (4500 *га*), у Полацкай акрузе—Чырвонаармейская камуна на Ноўліцкіх балатах (3500 *га*), у Аршанскай акрузе—новаарганізуемы калгас на Калфондзе Абрубы-Чысьці (1500 *га*).

У далейшым усім калгасам, якія будуць арганізоўвацца на балотных плошчах будзе надавацца канапляводны напрамак.

Пасеўная кампанія 1930 году павінна паслужыць урокам для будучага. Патрэбна ўлічыць вопыт бягучага году, выявіць усе недахопы, якія мелі месца ў гэтым і іх прычыны з тым, каб на гэтай падставе пазбавіцца недахопаў у вясеньнюю пасеўную кампанію 1931 году.

Улічваньне недахопаў бягучага году і іх аналіз—павінны зьявіцца пачаткам падрыхтоўкі да сяўбы 1931 г. Гэта трэба пачаць зараз ужо таму, што некаторыя прычыны, з тых, што перашкаджаюць разьвіцьцю прадзільных культур, ня могуць быць адхілены ў кампаней-

скім парадку, у кароткі тэрмін правядзеньня пасеўнай кампаніі, а патрабуюць сыстэматычнай упартай працы на працягу ўсяго году і нават шэрагу гадоў.

З чаго-ж практычна трэба пачынаць зараз, каб забясьпечыць пасьпяховае разьвіцьцё прадзільных культур і ў прыватнасьці, бесьперабойнага пасеву лёну і канапель вясною 1931 году.

З аналізу пералічаных недахопаў вынікае наступнае:

1. Неабходна фарсаваць індустрыялізацыю працэсаў першапачатковай пераапрацоўкі лёну. Для гэтага Ільна-Пяньковае Аб'яднаньне павінна своячасова выканаць свой плян пабудовы ільна-заводаў: заводы у Дрысенскім раёне і ў Лёзьненскім раёне павінны быць пушчаны ў ход да 1-га кастрычніка 1930 г., а заводы ў Боркавічах, у Гарадоцкім раёне і ў Шклоўскім раёне да 1-га лютага 1931 году.

2. Неабходна забясьпечыць ільнаводныя гаспадаркі завозам спэцыяльнага інвэнтару (ільнацерабілкі, машыны для абчосваньня ільняных галовак, мялак, трапалак, і інш.).

3. Аграномаў земорганаў і каапэрацыі (у цэнтры і ў раёнах), якія лічацца ільнаводамі, але ў сапраўднасьці зьяўляюцца унівэрсаламі, аслабаніць ад усіх іншых абавязкаў і даць ім магчымасьць працаваць выключна па прадзільных культурах.

4. Наркамгандлю павінен забясьпечыць хлебам і прамтаварамі пасеўшчыкаў, якія закантрактавалі свае пасевы лёну і канапель у 1930 г.

5. Нормы забясьпечаньня хлебам і прамтаварамі пры кантрактацыі ў 1931 годзе павінны быць устноўлены НКГандлю не пазьней 1-га лютага 1931 году.

6. Неабходна паглыбляць у вызначаных і ўноў вызначаемых спэцыялізацыю саўгасаў і калгасаў у ільнаводным і канаплянаводным напрамку.

**М. Гузоўскі.**

---

**„Надаючы вялізарнейшае значэньне пашырэньню сыравіннай базы для разгортваючайся прамысловасьці, зьезд ставіць важнейшай задачай усіх партыйных і савецкіх організацый пашырэньне засеўных плошчаў пад тэхнічнымі культурамі (лён, канапля) з давядзеньнем іх у 1929-30 г. да 213 тысяч га, 1930-31 г. да 250 тысяч га, у 1931-32 г. 350 тысяч га супроць 184 тысяч га у 1928-29 г., адначасова дабіваючыся падвышэньня ўраджаю гэтых культур“.**

**(З рэзалюцыі XIII зьезду КП(б)Б).**

# Вырашчваньне насеньня кораньплодаў

Кораньплоды маюць вялікае значэньне ў сельскай гаспадарцы. Роля іх у кароткіх рысах можа быць ахарактарызавана наступным:

1) Кораньплоды (бручка, морква, турнэпс і бурак) зьяўляюцца надзвычайна добрым кормам для жывёлы. Вялікае значэньне кораньплодаў, як корму, ня толькі заключаецца ў тым, што культура кораньплодаў з адзінкі плошчы дае ў 2—3 разы больш харчоў чым збожжа, але і ў тым, што гэты харч зьяўляецца вельмі спрыяючым кормам для малочнай жывёлы (бурак зьяўляецца вельмі малакагонным харчам), што дае магчымасьць лепш скарыстаць і іншыя фуражныя сродкі (грубыя кармы) пры харчаваньні жывёлы.

2) Культура кораньплодаў робіць уплыў на павялічэньне ўраджайнасьці ўсіх іншых расьлін, якія засяваюцца пасьля іх.

Гэта тлумачыцца апрацоўкай глебы палеткаў, занятых кораньплодамі, пульхненьнем міжрадзьдзяў, што ня толькі цягне за сабой лепшую падрыхтоўку глебы (у сэнсе яе пульхнасьці) для культур, якія засяваюцца пасьля кораньплодаў, але і тым, што гэткай апрацоўкай глеба робіцца чыстай ад сарнякоў. Апрача таго, павялічэньне ўраджаяў пасеваў іншых расьлін пасьля кораньплодаў мае сувязь з поўным выкарыстаньнем угнаеньняў, якое было ўнесена, але цалкам ня было скарыстана кораньплодамі.

3) Культура кораньплодаў павялічвае пасеўную плошчу як за рахунак папаравых палёў, гэтак і ў парадку падсеву (морквы, турнэпсу) альбо пажніўнага засеву (турнэпс) па збожжу. Апошняе дае магчымасьць атрымаць у адзін і той-жа год з аднэй і той-жа плошчы два ўраджаі: ураджай збожжа і ўраджай кораньплодаў.

4) Культывіруючы кораньплоды, мы павялічваем match разнастайнасьць культуры, чым страхуем гаспадарку ад магчымых недародаў іншых расьлін.

5) Культура кораньплодаў дае магчымасьць больш поўна, роўнамерна і мэтазгодна скарыстаць працоўныя сілы гаспадаркі. Гэта тлумачыцца тым, што палявыя работы па ўходу і прыборцы гэтых расьлін выконваюцца ў больш вольны час работы на палёх, якія заняты іншымі расьлінамі.

6) Культура кораньплодаў дае шмат адкідаў у выглядзе бацьвіньня, якое зьяўляецца добрым прадуктам для сілосу альбо для непасрэднага харчаваньня. Так, напрыклад, батва морквы зьяўляецца вельмі добрым кормам для жывёлы і ад харчаваньня ею малако і масла мае добры выгляд.

З паказанага відаць, што культура кораньплодаў мае значэньне як крыніцы харчаваньня жывёлы, гэтак і як культура, якая рэфармуе збожжавую гаспадарку і павялічвае ўраджайнасьць палёў.

Выходзячы з таго, што глебавыя і кліматычныя ўмовы Беларусі спрыяюць разьвіцьцю кораньплодаў з аднаго боку, і тое, што зараз мы адчуваем вялікія недахопы ў кармох для шпаркага разьвіцьця жывёлагадоўлі (а кораньплоды для жывёлы вельмі добры харч), дык наша ўвага ў значнай сваёй ступені павінна быць зьвернута на пашырэньне плошчы пад засеў кораньплодаў.

Толькі праз культуру кораньплодаў, як і праз арганізацыю культуры траў, палепшаньня сенажаці і сілосу—магчыма хутчэй вырашыць

праблему кармавой базы для жывёлагадоўлі, а гэтым у значнай ступені вырашыць праблему малака, мяса і масла.

Плянамі Наркамземляробства ў асноўным зусім правідлова ўзят курс на пашырэньне плошчы пад кораньплодамі, што відаць з наступнай табліцы:

| Гады | 28—29 г. | 29—30 г. | 30—31 г. | 31—32 г. | 32—33 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Пасеўная плошча кораньплодаў у гектарах . . . . . . . . . . | 8300 | 40000 | 80000 | 93000 | 129000 |
| У %% ад мінулага году . . . . | — | 480% | 200% | 116% | 137% |
| Рост у %% у параўнаньні з 28-29 г. | 100% | 480% | 963% | 1120% | 1554% |
| У %% да агульнай пасеўнай плошчы БССР . . . . . . . . . . | 0,2 | 1,0 | 1,9 | 2,0 | 2,5 |

Такім чынам плошча пасеву пад кораньплодамі павінна павялічыцца к канцу пяцігодкі ў 15—16 разоў у параўнаньні з плошчай пасеву 1928—1929 г. ці 2,5 проц. ад агульнай пасеўнай плошчы замест 0,2 проц. супроць 28—29 г.

З паказанага відаць, што напрамак павялічэньня пасеваў кораньплодаў адпавядае жывёлагадоўчаму напрамку нашай краіны. Патрэбна,



Пабудова новага складу для гародніны ў прыгарадным калгасе „Чырвоны Гароднік" (каля Менску).

каб належная ўвага ўсіх працаўнікоў на вёсцы, усіх калектыўных гаспадарак была зьвернута на выкананьне пляну.

Трэба ня толькі забясьпечыць выкананьне плянавых меркаваньняў НКЗему, але і перавыканаць іх прыблізна у 1½—2 разы з тым, каб забясьпечыць патрэбы жывёлы ў харчаваньні кораньплодамі.

Адным з асноўных момантаў пры культуры кораньплодаў зьяўляецца выбар таго ці іншага віду кораньплодаў. Гэткі выбар мае сваё значэньне таму, што ў розных глебава-кліматычных умовах бурак, турнэпс, бручка і морква маюць розную карысьць у параўнаньні як паміж сабой, гэтак і ў параўнаньні з аналёгічнай прапашной расьлінай, як бульба. Так, напрыклад, Новазыбкаўская дасьледчая станцыя, на падставе досьледаў 1927 году дае вынікі, што найбольш ураджайнымі кораньплодамі зьяўляецца бручка і морква і што ўраджаі бульбы больш чым ураджай кораньплодаў.

Па дадзеных конкурсу спрабаваньня корня-клубняплодаў на Беларускіх дасьледчых станцыях, дадзенымі, якія выстаўлены, Навукова-Дасьледчым Інстытутам на 1-й Усебеларускай с.-г. выстаўцы, таксама падкрэсьліваецца, што на пясчаных глебах бульба (па сухой матэрыі) мае перавагу над кораньплодамі.

Дадзеныя конкурсу корня-клубняплодаў (у цэнтнэрах на 1 гектар).

| Назва культур | На якіх дасьледчых станцыях рабіўся конкурс | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Віцебская | | Горацкая | | Менская | | Турская | | Палеская | |
| | Урадж. корн. | Сухой масы | Урадж. корн. | Сухой масы | Урадж. корн. | Сухой масы | Урадж. корн. | Сухой масы | Урадж. корн. | Сухой масы |
| Карм. бурак . . | 633 | 101 | 302 | 63 | 343 | 41 | 153 | 23 | 131 | 21 |
| „ морква . | 633 | 85 | 171 | 27 | 117 | 13 | 227 | 30 | — | — |
| „ бручка . | 413 | 51 | 517 | 79 | 502 | 55 | 340 | 41 | 105 | 13 |
| Турнэпс . . . | 367 | 32 | 677 | 58 | 637 | 54 | 347 | 32 | 127 | 11 |
| Бульба . . . | 151 | 37 | 229 | 52 | 187 | 46 | 217 | 46 | 119 | 27 |

Такія відныя спэцыялістыя па кармовым кораньплодам, як В. І. Сазонаў, М. А. Шэбаліна, В. Н. Узунаў, выказвалі думку, што ў раёнах з дастатковай вільготнасьцю (Палесьсе), а таксама ў паўночна-нечорназемных вобласьцях найбольшую карысьць выяўляе бручка і турнэпс і што ў гэтых раёнах паказаным кораньплодам належыць вялікая роля і што ў кожнай частцы нечорназемнай (прыблізна да Масквы), у тым ліку і ў БССР, мае разрадку з корня-клубняплодаў павінны распаўсюджвацца бульба, буракі, морква. Пасьля выбару лепшага кораньплода для распаўсюджваньня, вялікае значэньне мае ўдзельная вага таго ці іншага кораньплода для культуры.

На падставе плянавых меркаваньняў, Наркамзем адводзіць з ліку агульнай плошчы пасеву кораньплодаў 60 проц. пад буракі, 20 проц. пад бручку і па 10 проц. пад турнэпс і моркву. Удзельная-ж вага пасеўнай плошчы кораньплодаў у саўгасах некалькі адрозьніваецца, так, напрыклад, у 1930 г. у саўгасах пад буракамі 62 проц., бручкі 16,5 проц., турнэпсам 16 проц. і морквай 15,5 проц.

На падставе зробленай працы па сортаспрабаваньню, Навукова-Дасьледчы Інстытут лічыць лепшымі гатункамі для БССР і іх райануе наступным чынам:

| Назва расьліны | Назва гатунку | Для якой часткі БССР |
|---|---|---|
| Бурак . . . . | Экеьдорфскі чырвоны | Для паўночнай і сярэдняй часткі БССР |
| " | " жоўты і экцельсіор " чырвоны | Для ўсяе БССР |
| " | Баррэс цыліндрычны | Для ўсяе БССР |
| " | Паўцукровы | Для паўднёвай часткі БССР |
| Карм. бручка . . | Бангальмскі і швэдзкая жоўт. | Для ўсяе БССР |
| Карм. морква . . | Белая, зялёнагаловая і вейбульсупра | Для ўсяе БССР |
| Турнэпс . . . . | Бартфэльскі і одэрзундомскі | Для ўсяе БССР |

Значным тормазам для пашырэньня пасеўнай плошчы караньплодаў можа зьявіцца недахоп насеньня. Гэта тлумачыцца тым, што ў БССР насеннаводзтвам паказаных расьлін амаль да апошніх двух год



Збор гуркоў у калгасе „Чырвоны гароднік".

не займаліся і што зараз масавая арганізацыя насеннаводзтва караньплодаў мае шэраг адмоўных бакоў.

Патрэбна заўважыць, што разгортваць працу па насеннаводзтву караньплодаў у БССР, мы павінны ня толькі з мэтай нармальнага забесьпячэньня насеньнем пасеваў, але яшчэ і таму каб праз вытвар свайго насеньня ня прыходзілася яго ўвозіць з па-за межаў БССР.

Калі-ж падлічыць запатрабаваньні краіны ў насеньні па запраектаванымі Наркамземам Беларусі засеўным плошчам пад караньплодамі для харчаваньня жывёлы, дык умовы разьмеркаваньня гэтых плошчаў: пад бураком 60 проц., бручкай 20 проц., турнэпсам 10 проц., морквай 10 проц., пры норме засеву на 1 гектар кармовых плошчаў: бурак 20 кілё, бручкі 1 клгр., морквы 6 клгр., турнэпсу 5 клгр.; пры ўраджайнасьці насеньня з 1 гектару насеньнікаў: бурак 6 цнт., бручкі 5 цнт., морквы 5 цнт., турнэпс 5 цнт. і пры каэфіцыэнце плошчы матачнікаў да насеньнікаў: бурак 1 : $1^1/_2$, бручка 1 : 2, турнэпс 1 : 1, морква 1 : 2, г. зн. што з 1 гектару матачнікаў магчыма атрымаць пасьля зімовага захаваньня карэньняў на 1,5 *га*, 2 *га*, 1 *га*, 2 *га*—насеньнікаў—дык нам патрэбна па калгасам наступны аб'ём працы па насеннаводзтву караньплодаў:

| | Назва расьлін | | | | | | | | | | | | Разам | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Бурак | | | Бручка | | | Турнэпс | | | Морква | | | | | |
| | 30 г. | 31 г. | 32 г. | 30 г. | 31 г. | 32 г. | 30 г. | 31 г. | 32 г. | 30 г. | 31 г. | 32 г. | 30 г. | 31 г. | 32 г. |
| Плошча пад мастачнікамі (гэкт.) | 1242 | 1706 | 2666 | 19 | 26 | 40 | 47 | 129 | 100 | 122 | 77 | 240 | 1420 | 1938 | 3046 |
| Плошча пад насеньнікамі (гект.) | — | 1860 | 2560 | — | 37 | 52 | — | 93 | 129 | — | 112 | 154 | — | 2102 | 2895 |
| Уся плошча падвырасьліваньнем насеньня (гект.) | 1242 | 3566 | 5226 | 19 | 63 | 62 | 47 | 222 | 229 | 112 | 189 | 394 | 1420 | 4000 | 5941 |
| Магчымая прадукцыя ў тон. | — | 11 6 | 1548 | — | 18.6 | 25,8 | — | 46.5 | 64,5 | — | 55,8 | 77,4 | — | 1236,9 | 1715,7 |
| Каштоўнасьць насеньня т. р. | — | 558,0 | 774,0 | — | 18,6 | 25,8 | — | 46,5 | 64,5 | — | 116,2 | 154,8 | — | 739,7 | 1019,1 |

Патрэбна заўважыць, што плянам на 1930 г. па калгасах (у парадку доўгатэрміновай кантрактацыі) прадугледжвалася некалькі іншая плошча пад матачнікамі, як-та: буракоў 2000 *га*, бручкі 100 *га*, морквы 115 *га*, турнэпсу 45 *га*. Разыходжаньне па буракам тлумачыцца тым, што замест каэфіцыэнту 1 : $1^1/_2$ (паміж плошчай матачнікаў і насеньнікаў) браўся 1 : 1.

Што-ж датычыцца да плошчы пад бручкай, дык павялічэньне плошчы бралася выходзячы з неабходнасьці фарсаваньня росту гэтай расьліны як вельмі карыснай культуры для БССР.

З паказанага відаць як аб'ём працы па насеннаводзтву караньплодаў, так і якую задачу павінен вырашыць і ажыцьцявіць калгасна-кааперацыйны сэктар па арганізацыі вытвару сродкаў вытворчасьці для вырашэньня кармовай праблемы.

Гэтая задача можа быць выканана пры ўмове:

1) арганізацыя спэцыяльнай насеннаводна-калгаснай сыстэмы, у якой адна толькі прадукцыя насеньня караньплодаў будзе каштаваць у 1932 годзе больш мільёну рублёў.

2) Патрэбна зараз-жа рашуча на мясцох прыняць адпаведныя крокі да належнага дагляду, прыборкі і захаваньня маючыхся пасеваў матачнікаў (карэньняў) з тым, каб забясьпечыць выкананьне плянаў. Патрэбна каб Райвыканкомы, Райсаюзы, саўгасы, аграпэрсонал зяморганаў і калгасна-каапэрацыйнай сыстэмы, вакол пытаньняў насеннаводзтва наогул і пытаньняў насеннаводзтва караньплодаў у прыватнасьці стварылі грамадзкую думку сярод калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі.

3) Патрэбна, наладжваньнем справы па ўходу за караньплодамі— з усёй рашучасьцю змагацца з кулацкім элемэнтам, які, карыстаючыся часовымі цяжкасьцямі арганізацыі працы ў калгасах, вядзе ганебную сваю агітацыю супроць калгасаў.

4) Паколькі маецца значнае недавыкананьне плянаў пасеваў карэньняў і ёсьць пагроза, што дрэнным уходам за пасевамі колькасьць патрэбных карэньняў для насеньнікаў у 1931 годзе яшчэ больш зьнізіцца,—дык патрэбна зараз-жа нехапаючую колькасьць карэньняў забраніраваць з кармовых плошчаў і пры ўборцы ўраджаю апошніх забясьпечыць іх належнай прыборкай і захаваньнем.

Патрэбна каб за лік фуражных плошчаў раёны цалкам забясьпечылі плян, патрэбна каб кожны саўгас, калгас і асобна бядняцка-серадняцкая гаспадарка пры прыборцы ўраджаю кармовай плошчы адабралі лепшыя карэньні і захавалі-б іх для пасадкі ў 1931 г. насеньнікаў.

5) Патрэбна каб Райвыканкомы, Райсаюзы на падставе кантрольных лічбаў на 1930-31 г. прынялі рашучыя крокі па вызначэньню спэцыялізаваных гаспадарак (калгасаў) па насеннаводзтву і зараз-жа забясьпечылі-б падрыхтоўку глебы патрэбных плошчаў як для насеньнікаў, так і матачнікаў на будучы год.

Аграном **Бялоў**.

---

**„Цяпер, калі мы перайшлі к буйнай гаспадарцы і забясьпечылі ў руках дзяржавы рэзэрвы зярна, мы можам і павінны паставіць сабе задачу правільнай арганізацыі спэцыялізацыі па культурам і галінам“.**

**(Сталін).**

# На барацьбу за веды па насенназнаўству і насеннаводзтву

Поруч з іншымі хваравітымі бакамі працы ў галіне насеньнявытвару, насеньнязабясьпечаньню і скарыстаньню насеньня, зьяўляецца недаацэнка гаспадарчымі ўстановамі значэньня дабраякаснасьці насеньня, як галоўнага фактару ў рэканструкцыі сельскай гаспадаркі і ўздыму ўраджайнасьці.

Недаацэнка ролі насеннаводзтва, належнай падрыхтоўкі насеньня да яго скарыстаньня, мае свае корні ў няўважлівых адносінах да насеньня шырокіх колаў працаўнікоў сельскае гаспадаркі.

Шукаць прыкладаў доўга ня трэба. Кожны ў сваім раёне можа быць сьведкай гэткіх адносін як з боку асоб, што працуюць па падрыхтоўцы і рэалізацыі насеньня, так і з боку асоб і організацый, якія займаюцца вырабам насеньня.

Дзе-ж галоўная прычына гэткага зьявішча.

У першую чаргу, інэртнасьць працаўнікоў і нядобрасумленныя адносіны іх да справы, а таксама і тое, што вакол пытаньня насеннаводзтва не разгорнута соцспаборніцтва.

Лепшы вытвар насеньня, загатоўка, падрыхтоўка і захоўваньне насеньня да засеву—не зьяўляюцца і на сёньнешні дзень канкрэтнымі пытаньнямі соцспаборніцтва. Вакол гэтых пытаньняў сярод калгасьнікаў, рабочых саўгасаў і дасьледчых станцый, а таксама сярод бядняцка-серадняцкай масы вёскі адсутнічае соцспаборніцтва. Другой галоўнай прычынай зьяўляецца адсутнічаньне ведаў па насенназнаўству і насеннаводзтву ў шырокіх колаў працаўнікоў, чым затрымліваецца прасоўваньне патрэбных ведаў у шырокія працоўныя масы.

Ці магчыма бяз ведаў працаваць, а галоўнае кіраваць?

Не—немагчыма.

Толькі веды і прыхільнасьць да справы зьяўляюцца магутным рухавіком у перамозе ўсялякіх цяжкасьцяй.

Якія-ж і як праведзены і праводзяцца мерапрыемствы ў гэтым годзе па папаўненьню ведаў працаўнікоў у галіне насеннаводзтва?

Асноўнымі мерапрыемствамі ў гэтым напрамку зьяўляюцца кароткатэрміновыя курсы як для аграпрацаўнікоў, так і для калгасьнікаў і рабочых саўгасаў. Усяго намечана было правесьці двое курсаў па лугавому насеннаводзтву, адны курсы па апрабацыі і насеннаводзтву збожжа і канюшыны, адны курсы па апрабацыі і насеннаводзтву бульбы і адны курсы па караньплодах і гародных расьлінам. Усяго меркавалася перападрыхтаваць 175 аграпрацаўнікоў і 40 калгасьнікаў і рабочых саўгасаў.

Усе паказаныя курсы, за выключэньнем курсаў па гароднаму насеннаводзтву і караньплодаў—ужо скончаны. У дадатак да паказаных курсаў, частка працаўнікоў кантрольна-насенных станцый была накіравана на Каранеўскую бульбяную станцыю (пад Масквой) на курсы па бульбе.

Калі параўнаць колькасны ахоп мерапрыемстваў па падрыхтоўцы пэрсоналу па насеннаводзтву гэтага году з пяпярэднім, дык трэба сказаць, што ў гэтым напрамку маецца значны зрух мерапрыемстваў ў бок іх пашырэньня.

Аднак ва ўсёй працы правядзеньня курсаў маецца шэраг недахопаў, галоўнымі з якіх зьяўляюцца: 1) кароткатэрміновасьць курсаў, 2) пера-

гружанасьць працы курсантаў, 3) цяжкія кватэрныя ўмовы для працы курсантаў, 4) частковае нездавальненьне курсантаў выкладаньнем асобных выкладчыкаў, 5) недастатковае, а пад час і адсутнічаньне забясьпечаньня курсантаў патрэбнай літаратурай.

Апрача паказаных недахопаў нельга не адзначыць, што надзвычайна балючымі зьявішчамі пры падрыхтоўцы праведзеных курсаў зьяўляліся нядбайныя адносіны мясцовых зямельных органаў і гаспадарчых організацый да своечасовага і поўнага выдзяленьня курсантаў і іх належнага падбору.

Дзякуючы гэтаму мы маем:

1) Замест 40 асоб калгасьнікаў і рабочых саўгасаў, на курсы па лугавому насеннаводзтву зьявілася толькі 29.

2) На курсы па насеннаводзтву збожжа зьявілася толькі палова запраектаванай лічбы.

3) Замест 25 чалавек на курсы па насеннаводзтву бульбы зьявілася толькі 10.

4) Замест запроектаванай лічбы ўсіх курсантаў, мы маем выкананьне толькі на 50 проц.

Апрача значнага недаўкамплектаваньня курсаў, мы мелі несваячасовы і працяглы зьезд курсантаў, у зьвязку з чым збор курсантаў цягнуўся надзвычайна доўгі і нечаканы час. Характэрным прыкладам гэтага можа зьявіцца выпадак збору курсантаў-калгасьнікаў і рабочых саўгасаў на курсы па лугавому насеннаводзтву на Турскую дасьледчую станцыю, што можна ўбачыць з наступнай табліцы:

| З якіх організацый былі курсанты | 5/III | 6/III | 7/III | 9/III | 10/III | 12/III | 13/III | 14/III | 18/III | 19/III | 25/III | 28/III | Усяго прыбыло курсант. | Павінна было быць | % камплектаваньня |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік курсантаў | | | | | | | | | | | | | | |
| З калгасаў | — | — | — | — | — | — | 1 | 6 | 3 | 2 | 1 | 1 | 14 | 24 | 58 |
| З саўгасаў і дасьледч. установ . | 3 | 1 | 2 | 1 | 3 | 2 | 1 | 2 | — | — | — | — | 15 | 16 | 94 |
| Усяго . . | 3 | 1 | 2 | 1 | 3 | 2 | 2 | 8 | 3 | 2 | 1 | 1 | 29 | 40 | 72 |

З паказанага відаць, што пачынаючы з 5/III 1930 г. (вызначанага часу пачатку курсаў) збор курсантаў цягнуўся на працягу 23 дзён. У зьвязку з гэтым фактычна курсы пачаліся толькі ў палове сакавіка м-ца.

Зразумела, што пры такіх адносінах да вылучэньня курсантаў з боку гаспадарчых калгасна-каапэрацыйных органаў, нічога карыснага нельга зрабіць з мэтай папаўненьня ведаў па насеннаводзтву сярод працаўнікоў і ўзмацненьня іх працаздольнасьці на вытворчасьці. Такімі адносінамі да справы можна толькі дэманстраваць прыклады дрэнных і нават шкодных адносін да камплектаваньня.

Ці магчыма абмежавацца падрыхтоўкай паказанай колькасьці працаўнікоў? Не, немагчыма.

Патрэбна, з аднаго боку, у далейшым узмацняць веды тых працаўнікоў, якія ў гэтым годзе праслухалі курсы і, з другога боку, зараз ужо рыхтавацца да працы перападрыхтоўкі пэрсаналу на будучы год.

Як-жа магчыма паглыбляць свае веды асобам, якія праслухалі ўжо курсы.

Для гэтага патрэбна ў першую чаргу, заняцца самаадукацыяй. Кніжка, падручнік, часопіс павінны зьявіцца лепшымі дапаможнікамі ў гэтай справе. Ніводнага курсанта, які быў на курсах, а таксама ніводнага працаўніка ў галіне насеннаводзтва не павінна быць, каб яны ня былі падпісчыкамі і ўдзельнікамі часопісу „Насеннаводзтва“ [1]). Часопіс „Насеннаводзтва“ зьяўляецца амаль адзіным пэрыядычным выданьнем па насеннаводзтву, які зараз выдаецца ў Маскве Насеннасаюзам. Гэты часопіс павінен зьявіцца настольным часопісам кожнага працаўніка, які мае дачыненьне да насеннаводзтва. Гэта выклікаецца тым, што:

1) Часопіс „Насеннаводзтва“ ставіць галоўнай мэтай правядзеньне ў жыцьцё генэральнай лініі партыі і дырэктыў савецкага ўраду ў сэнсе выкананьня вытворчых задач па насеннаводзтву.

2) Часопіс асьвятляе ўсе бакі вытворчасьці і збыту сартавога насеньня ўсіх расьлін.

3) Часопіс надае асабліва вялікае значэньне пытаньням арганізацыі насеннай справы.

4) Часопіс ставіць сваёй мэтай падвысіць узровень вед працаўнікоў па насеннаводзтву.

Абмен думкамі аб праведзенай працы, мяркуемых пэрспэктывах, умовах працы і г. д. праз часопіс „Шляхі Калектывізацыі“—ёсьць другі шлях згуртаваньня думкі для вырашэньня хібаў у галіне насеннаводзтва і папаўненьня вопыту і ўстанаўленьня сувязі паміж працаўнікамі. Патрэбна, каб кожны праслухаўшы курсы па насеннаводзтву выказаў, што і як ён на месцы арганізаваў, як вядзе працу па насеннаводзтву і якія вынікі і хібы маюцца ў яго працы.

Арганізацыя кансультацыі праз часопіс „Шляхі Калектывізацыі“ ёсьць трэці масавы шлях папаўненьня ведаў у галіне насеннаводзтва. Патрэбна каб кожны працаўнік, які мае дачыненьне ў сваёй працы да насеннаводзтва, запытаўся праз рэдакцыю „Шляхі Калектывізацыі“ вырашэньня таго або іншага незразумелага для яго пытаньня па насеньню.

Абавязкам кожнага курсанта павінна зьявіцца праца па распаўсюджваньню ведаў сярод астатніх працаўнікоў і сярод шырокіх колаў працоўных мас. Да выкананьня гэтых абавязкаў кожны праслухаўшы курсы павінен зараз-жа падрыхтавацца. Патрэбна, каб кожны паставіў сваёй задачай згуртаваць вакол сябе актыў, падрыхтаваць яго ў пытаньнях тэхнікі і арганізацыі насеннаводзтва і праз яго прасоўваць далей у шырокія колы працоўнага насельніцтва веды па насенназнаўству і насеннаводзтву.

Толькі так, а ня інакш магчыма будзе шпаркім тэмпам распаўсюдзіць веды аб насеньні і зьнішчыць адмоўныя бакі, якія прыпыняюць справу па вытвару насеньня, яго распаўсюджваньню, належнай падрыхтоўкі насеньня да засеву і належнага захаваньня насеньня да часу скарыстаньня.

Б.

[1]) Адрас рэдакцыі штомесячнага часопісу „Насеннаводзтва“—Масква, Цэнтр, Мясьніцкая, 24. Падпісная цана на год 4 руб., на паўгода 2 р. 50 к.

# ПЕРШАЯ ЎСЕБЕЛАРУСКАЯ ВЫСТАЎКА

## Школа сацыялістычнай рэканструкцыі

Усебеларуская Выстаўка сельскай гаспадаркі і Прамысловасьці, зьяўляючыся па зьместу школай сацыялістычнай рэканструкцыі с. г. БССР, патрабуе ад кожнага экскурсанта і наведвальніка, каб ён сапраўды ўсё бачанае праводзіў у практычным жыцьці. Ад кожнага наведвальніка неабходна дабіцца максімуму ўвагі да агляду экспанатаў і перадачы вопыту лепшага будаўніцтва на прадпрыемстве ў саўгасах і калгасах.

Лепшыя прыклады па сацыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі і вопыт сацспаборніцтва дапамогуць хутчэй ажыцьцявіць пяцігодку.

Мы павінны зараз дэталёва пазнаёміцца, на чым затрымацца на аглядзе Выстаўкі, каб усё бачанае перанесьці, як прыклад для хутчэйшай калектывізацыі вёскі.

**Аграмаджаны сэктар.** Графічныя матар'ялы (Галоўны павільён, другі паверх) яскрава паказваюць перавагу буйнага сацыялістычнага земляробства перад дробным сялянскім. Тут, праглядваючы эканоміку і арганізацыю калектыўных гаспадарак, можна бачыць, што дробная сялянская гаспадарка ня мае пэрспэктыў для свайго разьвіцьця. І, наадварот, шэраг эканамічных разьлікаў паказваюць, што толькі буйнае земляробства,—саўгасы і калгасы,—зьяўляюцца нашым асяродкам для хутчэйшай сацыялістычнай перабудовы вёскі. Таварная частка гаспадарак аграмаджанага сэктару значна правышае таварнасьць гаспадарак індывідуальнага сэктару. Аграмаджаны сэктар прадстаўлен саўгасамі, калгасамі і вытворчымі аб'яднаньнямі. Праглядаючы гэты разьдзел, можна бачыць, што за 10 год мы маем значныя посьпехі. А вялікая электрычная карта, якая маецца пры ўваходзе,—паказвае электрычнымі пунктамі 3700 калгасаў, якія раскінуты па БССР.

Трэба, каб кожны наведвальнік запісаў лічбы, якія адбівалі-б перавагу буйнага земляробства перад дробным.

Лічбовы матар'ял узяты з сучасных гаспадарак аграмаджанага сэктару БССР, таму ён найбольш яскравы доказ таго, што калектывізацыя мае вялікую будучыню пры сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

Буйныя аграіндустрыяльныя камбінаты Рагачоўска-Жлобінскі і Ляднянска-Дубровенскі ўказваюць на тое, як практычна вырашаецца пытаньне з арганізацыяй тэрыторыі буйных гаспадарак.

Наліčча такіх гаспадарак і калгасу „Шлях Леніна“ з Калінінішчыны і інш., як нельга лепш паказвае, што ва ўмовах БССР калектыўныя формы землякарыстаньня замянілі хутарскія адзінкі і дробныя пасёлкі.

Пляны буйных калгасаў прыкоўваюць нашу ўвагу, бо гэта прыклад таго, што на практыцы ўжо ажыцьцяўляецца ідэя калектывізацыі вёскі.

**Навукова-дасьледчая справа.** Павільён земляробства паказвае дасягненьні нашых дасьледчых станцый і натуральнымі экспанатамі

дапаўняе вынікі сваёй працы, трэба больш дасканала прашчупаць лічбовы матар'ял, бо мы да гэтага часу мерапрыемствы па вапнаваньню, па фасфарытаваньню і тарфаваньню глебы недастаткова прасоўвалі ў жыцьцё.

Той, хто ўбачыць вынікі з вапнэваньнем, тарфаваньнем глебы, упэўніцца, што гэтае мерапрыемства трэба прасоўваць у гаспадаркі аграмаджанага сэктару і бядняцка-серадняцкія. Вынікі дасьледчых станцый з вапнай кладуць канец усім разважаньням аб вапне як угнаеньні, бо відавочна ўпэўняецца ў сапраўднай карысьці вапны як угнаеньня.

З поўначы на поўдзень, строга вытрыманая праца дасьледчых стан-



Калгас „Чырвоны Партызан" (Меншчына).
На здымку: Калгасьнікі за распрацоўкай торпу.

цый, багата знаёміць нас з тым, што ў нас маюцца ўсе падставы, каб павялічыць ураджайнасьць на 45 проц. к канцу пяцігодкі.

Гэты аддзел дапаўняецца досьледамі ў вэгетацыйным павільёне. Звыш двух тысяч пасудзін з глебамі дасьледчых станцый, ці асноўнымі тыпамі нашых глеб паказваюць, што не хапае для расьлін у глебе і як дапоўніць недахоп пажыўных матэрый у глебе. Тут ёсьць і вынікі Новазыбкаўскай дасьледчай станцыі, якая паказвае сваю працу з лубінам. Вельмі патрэбна, каб кожны глядач усё бачанае скарыстаў для павялічэньня ўраджайнасьці нашых палёў.

**Павільён масавых экспанатаў.** Каля двух тысяч узораў розных расьлін паказваюць у натуры дасягненьні ў галіне паляводзтва. Па былых акругах выяўлены ўраджаі нашых палёў. Вельмі важна, што тут параўнаўча паказаны ўраджаі гаспадарак аграмаджанага і індывідуальнага сэктараў. Ураджаі аграмаджанага сэктару дасягнулі 25 *цнт.*,

у той час, як ураджаі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у сярэднім дасягнуць каля 15 *цнт* з гектару. Можна бачыць, якія гатункі даюць лепшыя ўраджаі і што трэба пашыраць для таго ці іншага раёну.

**Севазвароты**. Палявая гаспадарка з рознымі севазваротамі ў натуры паказвае для кожнага раёну, якія севазварты трэба ўводзіць. Дадзены разьлік для ўсіх севазваротаў. Побач з севазваротамі маецца насенны гаспадарнік і новыя культуры. Гэта паказвае, якія расьліны можна пашыраць наогул і якія новыя расьліны можна ўводзіць у нашых умовах. Асаблівую ўвагу павінны прыцягнуць сілосныя расьліны, якія ў насенным гадавальніку і ў палетках кормаздабываньня шырока дэмонструюцца.

Кукуруза, сланэчнік, доньнікі і інш. паказваюць, што кармовае пытаньне ў нас можа быць вырашана ў жадаемым напрамку. Гародніцтва, садоўніцтва, лекавыя расьліны. У другім кутку тэрыторыі, што каля гасьцінца, раскінут гарод, сад, лекавыя расьліны і новыя расьліны. Гэты аддзел паказвае лепшыя гатункі і ў натуры дэманструе правільны ўход, пасадку і севазвароты. У павільёне садоўніцтва адбіта эканоміка і арганізацыя садавой і гароднай гаспадаркі. Неабходна пазнаёміцца з гатункамі ўсіх расьлін і карысьцю ад гароднай гаспадаркі і перанесьці вопыт у калектыўныя гаспадаркі.

**Аддзел садоўніцтва** дапаўняе павільён тэхнічнай перапрацоўкі садовіны. Можна ў натуры, на прыкладзе ўпэўніцца, што ў нась ёсьць большыя пэрспэктывы для разьвіцьця таварнага садоўніцтва. Трэба вывучыць гэтую справу, або дапамагчы хутчэй ліквідаваць недахоп прадуктаў садоўніцтва і гародніцтва.

**Аддзел жывёлагадоўлі.** Гэты аддзел сваімі экспонатамі паказвае нашы дасягненьні ў жывёлагадоўлі. Налічча 200 галоў буйнай рагатай жывёлы, 28 коняй, 200 сьвіней і 200 штук дробнай жывёлы і птушак шырока паказваюць нашы пароды. Трэба выключную ўвагу згрутаваць на скотныя двары. Скотныя двары абсталяваны на амэрыканскі лад. Простае абсталяваньне можна перанесьці ў гаспадаркі аграмаджанага сэктару і нават больш усе паметы трэба запісаць, каб перадаць у жыцьцё гаспадарак аграмаджанага сэктару.

Мэханізацыя скотных двароў значна дапаўняе скотны двор і вызначае шляхі па хутчэйшаму разьвіцьцю жывёлагадоўлі. Жывёла саўгасаў і калгасаў лішні раз даказвае, што ў гаспадарках аграмаджанага сэктару сапраўды вырашаецца асноўнае пытаньне хутчэйшага разьвіцьця жывёлагадоўлі.

Кожны экскурсант павінен ня толькі глядзець, але прыняць усе крокі, каб бачанае перанесьці ў штодзеннае жыцьцё прамысловасьці сельскай гаспадаркі.

**К. Кіпрыянец.**

## Агляд дасягненьняў

Перапоўнены трамвай застанавіўся каля вялізнай брамы Выстаўкі. Вылазім.

Праз драцяную загарадзь відаць па сьвятошнаму ўбраныя павільёны. Усе разам яны ствараюць нейкі дзіўны, дзівосны выгляд, які нельга забыць. Разьвяваюцца чырвоныя штандары. Наперадзе—супроць брамы—вялізны, шэры манумэнт Леніна. А за манумэнтам разьмясьціліся белыя дамы—павільёны.

— А бо-о,—кажа нейкая калгасьніца-экскурсантка,—дык тут-жа цэлы горад. Хіба ўсё гэта агледзіш?..

— Агледзім, цётка, агледзім,—супакойвае нецярплівую цётку па сьвятошнаму апрануты сьлёсар з „Камунара“ і шэрым пальцам паказвае наперад.

— Бачыш, што нарабілі,—гэта агульная праца, толькі ў зьменшаным выглядзе. Агледзім усё, не бядуй.

* * *

*Перад намі павільён сувязі.*

Невялікі ў параўнаньні з іншымі, але прыгожы павільён. У ім адбываюцца ўсе паштова-тэлеграфныя апэрацыі, тут-жа зьмешчаны экспанаты розных відаў сувязі: пошты, тэлеграфу, тэлефону, радыё. Апрача свайго прамога прызначэньня—паказаць дасягненьні нашай сувязі, павільён абслугоўвае выстаўку тэлефоннай сувязьзю. Тут знаходзіцца цэнтральная тэлефонная станцыя для абслугоўваньня Выстаўкі.



Лясны павільён.

З павільёну сувязі мы накіраваліся ў галоўны павільён.

*Галоўны павільён* падзяляецца на цэлы шэраг аддзелаў: навукова-дасьледчы, зямляўпарадкаваньня, абагуленага сэктару сельскай гаспа-

даркі, асьветы, спадчына вайны і абарона краіны, куток „Партыя і Ленін у сацыялістычным будаўніцтве“, куток нацыянальнасьцяй, стары і новы быт. Тут паказана ўзорная раённая бібліотэка ў раёне суцэльнай калектывізацыі.

З агульнага павільёну мы накіроўваемся ў *павільён мясцовае і саматужнае прамысловасьці*, які знаходзіцца насупраць галоўнага. Тут у аддзеле саматужнай прамысловасьці прадстаўлены экспанаты вытворчасьці арцеляй Белсампрамсаюзу і інваліднай каапэрацыі. Нельга пакінуць без увагі і вытворчасьць працоўных папраўчых дамоў. У гэтым павільёне сканцэнтравана шмат асобных відаў прамысловасьці. Тут можна знайсьці і мэталяапрацоўчую, вытворчасьць, і дрэваапрацоўчую, і тэкстыльную, і галянтарэйную і г. д. Побач з рознымі мэталёвымі інструмантамі, можна ўбачыць паліто, гузікі, мэблю, музычныя інструманты, экспанаты апрацоўкі скур, прадукты ганчарнай прамысловасьці, вырабы з косьці і рогу і інш.

Тут-жа экспанаты шоўкаводзтва на Беларусі.

Увагу экскурсантаў прыцягвае модэль лесазаводу Быхаўскай прамыслова-каапэрацыйнай арцелі імя Леніна і макет галоўнага корпусу Бабруйскай электрастанцыі.

— А вось і павільён Лесбелу,—кажа нам кіраўнік групы.

Але гэта зразумела нават і без яго тлумачэньня па аднэй толькі надворнай форме павільёну, які сам па сабе зьяўляецца экспонатам. Вялікая тоўстая вежа з гнутай фанэры адбівае сабою калоду, што дае ўсе вырабы дрэваапрацоўчай прамысловасьці. З драгога боку—каля ўваходу ў павільён—зроблена модэль вялізнай, цэнтральнай пліты, якая ў дыямэтры мае каля трох, а мо' і больш мэтраў.

Тут прадстаўлены экспанаты дрэваапрацоўчай прамысловасьці. На першым пляне—розныя гатункі фанэры і вырабы з яе: скрынкі, чэмаданы-лубянкі, бочкі і г. д. Тут і сярніковая вытворчасьць. Далей паказаны працэс вырабу розных капылоў для абутку, ватэрпасы, прадукты бачарнай вытворчасьці, прадукты лесапільнай вытворчасьці.

Далей ідзе сплаў. Тут паказаны розныя спосабы ўвязкі плытоў, зроблены макет ракі з плытамі; тут-жа побач—прадукты нашага экспарту. У цэнтры павільёну—макет Бабруйскага лесаапрацоўчага камбінату.

У павільёне Белдзяржбуду мы ўбачылі вялізныя макеты—мадэлі розных будынкаў. Асаблівую ўвагу прыцягвае да сябе макет дому Ураду, які зараз будуецца ў Менску. У павільёне Белдзяржбуду паказана паступовае разьвіцьцё нашага будаўніцтва. Тут паказаны ўзоры будаўніцтва з розных матар'ялаў, пры чым асаблівай увагі заслугоўваюць экспанаты новай дрэвакаркаснай сыстэмы будаўніцтва. Сутнасьць гэтай сыстэмы ў наступным; аснова будоўлі робіцца з драўляных брусоў і абшываецца потым з абедзьвух бакоў дошкамі, паміж якімі засыпаецца мешаніна з пілавіньня, алебастру і інш. матэрыялаў. Сьцены з абодвух бакоў атынкоўваюцца. Гэткая будоўля вельмі танна абыходзіцца, яе хутка можна пабудаваць, а па якасьці яна ня ўступае драўлянай будоўлі.

Сам павільён Белдзяржбуду таксама зьяўляецца досыць цікавым экспонатам будаўніцтва. Ён пабудаваны са старых і новых матар'ялаў (цэгла звычайная і порыстая, бэтанітавыя каменьні і тэрмалітавы матар'ял). Дах таксама пабудаваны з новага і старога матэрыялаў для параўнаньня іх асаблівасьцяй і якасьці.

*Павільён рэспубліканскай прамысловасьці.*

Адразу-ж каля ўваходу разьмешчаны розныя машыны і варштаты вырабу заводаў Белмэталяаб'яднаньня: сіласарэзкі гомсельмашу, цэнтрафугі „Камунару“, сьвідравальныя варштаты „Энэргіі“. Значнае месца адведзена экспанатам Белторфаб'яднаньня і кутку саюзторфу. Тут разьмешчаны розныя ўзоры апрацовак торфу: машына-фармовачны торф, гідраэлеватарны, сапрафэль, крыкесны торф і таксіл. Тут-жа прадстаўлены макет торфараспрацовак на высушаным балоце.

Увагу наведвальнікаў, асабліва жанчын, прыцягвае ткацкі варштат з Дняпроўскай мануфактуры. Тут-жа ўзоры мануфактуры і дыяграмы разьвіцьця нашай тэкстыльнай прамысловасьці.

Значнае месца ў павільёне займаюць экспанаты шкляной прамысловасьці. Тут продукцыя трох гут: „Ноўкі“, „Кастрычнік“ і „Домбаля“.

Заслугоўваюць увагі экспонаты горнай прамысловасьці БССР. Гэта прамысловасьць у нас новая, але мае ўсе падставы для свайго разьвіцьця. Тут прадстаўлены фасфарыты, граніт з Мазырскіх пакладаў, якія маюць усесаюзнае значэньне, крэйда, зялёная гліна і інш. мінэралы. Абсталяваны і невялічкі аддзел керамікі.

Далей яго мы бачым экспанаты Віцебскай акулярнай фабрыкі, галянтарэйная фабрыка „Беларуска“, махорачнай фабрыкі, Белхэмпраму, Белпапераб'яднаньня, Белшвэйпраму, палаты мер і вагі, Белпушчаціны і Белсельпрому.

Асабліва цікавым зьяўляецца гарбарны аддзел. Тут паступова паказваецца працэс ператварэньня сырых скур у падэшвы, лайку, хром. Цікава выстаўка колерных скур.

Пад павецьцю, якая знаходзіцца пры павільёне, зьмешчан шэраг машын, якія па сваёй велічыні нельга зьмясьціць у павільёне. Усе машыны вырабу нашых заводаў. **П.**

---

## Здабыча жывіцы па Ціхініцкаму лясьніцтву

Каніфоль і шкіпінар здабываецца з сасны шляхам падсочкі. Пры наліччы хваёвых лясоў па Саюзу ССР, мы зможам падняць падсочную прамысловасьць так, што цалкам задаволім сваю прамысловасьць шкіпінарам і каніфольлю. Патрэбна толькі зьвярнуць максімум увагі ўсім арганізацыям на гэтую справу, а ня толькі лясьніцтву.

Яшчэ два гады таму назад прабавалі рабіць падсочку. У гэтым годзе падсочная справа прыняла шырокі размах. Па ўсяму лясьніцтву адбіта 12 вучасткаў з плошчаю 210 *га*, на якіх і здабываецца жывіцца. Вылучаны спэцыяльны чалавек, які сочыць і кіруе гэтай справай. Ужо пастаўлена 67 тысяч казыркоў, з якіх сабрана на 15-е ліпеня г.г. 11267 кілёгр. жывіцы. Першыя месяцы сэзону, дзякуючы спрыяючаму надвор'ю, далі добры выхад жывіцы. Прыкладам норма выхаду з казырка чэрвень м-ц 14 грам, а сабрана 16 гр., ліпень м-ц норма 18 гр., а сабрана 22 гр.

Падрэзка сасны працаўнікамі робіцца рэгулярна два разы ў тыдзень, а выбарка адзін раз. Усяго рабочых працуе 25 чалавек, якія выпрацоўваюць у дзень да 4-х рублёў і зборшчыца жанчына 2 руб. Выплата даецца ад выпрацоўкі, г. зн. па 8 кап. ад кожнага здабытага кілёгр. жывіцы. Сабраная жывіца адпраўляецца на завод.

Сёлетні сэзон да кастрычніка месяца па Ціхініцкаму лясьніцтву дасьць каля 35 тысяч кілёгр. жывіцы (каля 2187 пудоў). **Г. Шульман.**

# Калектыўнае пчалярства

*(Клічаўскі раён, Бабруйшчына)*

З арганізацыяй увосень 1929 г. калгасаў, куставым аб'яднаньнем „Перакоп", Уладзіміраўскага сельсавету сваечасова былі прыняты меры да арганізацыі пчалярнай пасекі. Для гэтай мэты куставым аб'яднаньнем быў вылучан адзін сьвядомы калгасьнік з калгасу „імя 11-й дывізіі", які заняўся гэтай справай.

Пасека на сёняшні дзень складаецца з 62 пчаліных сямей, з якіх 16 сямей зьмяшчаецца ў рамачных вульлях сыстэмы „Лявіцкага", а астатнія 46—у калодных вульлях. Пасекай прыняты меры да замены калодных вульляў рамачнымі. Для новых сямей-раёў сіламі пасекі загатавана 30 вульляў сыстэмы „Лявіцкага" і атрымана ад акруговага пчалярнага т-ва 20 вульляў сыстэмы „Дадан-Плата".

Вясной у гэтым годзе для пасекі засеяна 2,6 гектары меданосных траў. Ёсьць надзея к зіме пасеку пашырыць да 150 пчаліных сямей.

Мясцовыя калгасы ставяць пытаньне пры зямляўпарадкаваньні вылучыць спэцыяльную дзялянку зямлі пад пчалярную пасеку. Райпаляводсаюзам прыняты меры да забясьпечаньня пасекі пчалярнымі прыладамі. Пасека для Ўсебеларускай с.-г. выстаўкі нарыхтавала вялікую колькасьць экспанатаў.

Трэба спадзявацца, што пасека ў самы хуткі час будзе адна з вялікіх і прыкладных па раёну.

**І. П.**

---

**Рэдактар—Рэдкалегія.**

ЦАНА 20 КАП.

1291



Менск, друк. БДВ. Зак. № 2470. 10.000. (3¼ арк.) Галоўлітбел № 2820.